*Закон Рэспублікі Беларусь*

# Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь у сувязі з прыняццем Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні дапаўнення ў артыкул 153 Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Рэспублікі Беларусь"

У сувязі з прыняццем Закона Рэспублікі Беларусь ад 27 мая 1993 года "Аб унясенні дапаўнення ў артыкул 153 Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Рэспублікі Беларусь" Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Унесці змяненні і дапаўненні ў наступныя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь:

I. У Закон Рэспублікі Беларусь ад 26 лістапада 1981 года "Аб судовым ладзе Рэспублікі Беларусь" (ЗЗ БССР, 1981 г., № 33, арт.671):

артыкул 10 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

**"Артыкул 10. Калегіяльны разгляд спраў і разгляд спраў суддзёй**

Разгляд грамадзянскіх і крымінальных спраў ажыццяўляецца ў судзе першай інстанцыі суддзёй з удзелам народных засядацеляў або суддзёй аднаасобна.

Разгляд спраў у судовых калегіях адпаведных судоў у касацыйным і наглядным парадку ажыццяўляецца ў складзе трох членаў суда.

Прэзідыум адпаведнага суда разглядае справы пры наяўнасці большасці членаў прэзідыума.

Пленум Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь разглядае справы пры наяўнасці не менш дзвюх трацей яго складу".

II. У Крымінальна-працэсуальны кодэкс Рэспублікі Беларусь, зацверджаны Законам Рэспублікі Беларусь ад 29 снежня 1960 года (ЗЗ БССР, 1961 г., № 1, арт.5, № 25, арт.249; 1967 г., № 1, арт.1; 1968 г., № 34, арт.469; 1970 г., № 12, арт.147; 1975 г., № 16, арт.239; 1977 г., № 5, арт.58; 1983 г., № 27, арт.445; 1985 г., № 5, арт.65; 1987 г., № 35, арт.477; 1990 г., № 11, арт.138):

1. Артыкул 10 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

**"Артыкул 10. Калегіяльны і аднаасобны разгляд крымінальных спраў у судах**

Крымінальныя справы ў судзе першай інстанцыі разглядаюцца калегіяльна або суддзёй аднаасобна.

Калегіяльны разгляд спраў ва ўсіх судах ажыццяўляецца ў першай інстанцыі ў складзе суддзі і двух народных засядацеляў.

Народныя засядацелі пры выкананні правасуддзя карыстаюцца ўсімі правамі суддзі. Народныя засядацелі карыстаюцца роўнымі правамі са старшынствуючым у судовым пасяджэнні ў вырашэнні ўсіх пытанняў, якія ўзнікаюць пры разглядзе справы і пастанаўленні прыгавору.

У выпадках, прадугледжаных гэтым Кодэксам, разгляд спраў у судзе першай інстанцыі ажыццяўляецца суддзёй аднаасобна ў агульным парадку.

Разгляд спраў у касацыйным парадку ажыццяўляецца ў складзе трох членаў суда, а ў парадку нагляду — у складзе не менш трох членаў суда".

2. Артыкулы 15, $15^{1}$; часткі першую—пятую і сёмую артыкула $15^{3}$; артыкулы 104, 236; частку другую артыкула 246; часткі першую, трэцюю—пятую артыкула 250; частку першую артыкула 251; часткі першую—трэцюю артыкула 252; часткі другую і чацвёртую артыкула 254; частку першую артыкула 255; часткі першую, другую і чацвёртую артыкула 256; артыкул 257; частку першую артыкула 258; артыкулы 260, 278, 280, 282, 283; частку пятую артыкула 286; частку другую артыкула 291; частку першую артыкула 293, артыкулы 296—300, 302—305, 310, 312, 316; часткі пятую і шостую артыкула 317; артыкулы 320, 323, 325, 339, 376; часткі другую—чацвёртую артыкула 378; часткі першую і другую артыкула 379; артыкул 380 пасля слоў "суд", "судом", "суда", "судамі" дапоўніць адпаведна словамі "(суддзя)", "(суддзёй)", "(суддзі)", "(суддзямі)".

3. У артыкуле 22:

пункт 2 пасля слоў "Суд першай інстанцыі — суд" дапоўніць словам "(суддзя)";

дапоўніць артыкул пунктам 5а наступнага зместу:

"5а) "Старшынствуючы" — суддзя, які старшынствуе пры калегіяльным разглядзе справы або разглядае справу аднаасобна";

пункт 10 пасля слоў "вынесенае судом" дапоўніць словамі "або суддзёй";

пункт 12 пасля слоў "якім суд" дапоўніць словамі "або суддзя";

пункт 13 пасля слоў "суддзёй аднаасобна" дапоўніць словамі "акрамя прыгавору".

4. У частцы першай артыкула 23:

першы сказ пасля слоў "народных засядацеляў" дапоўніць словамі "або суддзёй аднаасобна";

другі сказ пасля слоў "члена адпаведнага суда і двух народных засядацеляў" дапоўніць словамі "або аднаасобна старшынёй, намеснікам старшыні або членам адпаведнага суда".

5. Артыкул 30 дапоўніць часткай трэцяй наступнага зместу:

"Адвод, заяўлены суддзі, які разглядае справу аднаасобна, вырашаецца тым жа суддзёй".

6. У артыкуле 31:

назву пасля слова "суду" дапоўніць словам "(суддзі)";

дапоўніць часткай другой наступнага зместу:

"Суддзя аднаасобна разглядае справы аб злачынствах, прадугледжаных часткай першай артыкула 67; артыкулам $67^{1}$; часткай першай артыкула 71; часткай першай артыкула 73; часткай першай артыкула $73^{1}$; часткай першай артыкула 77; часткай першай артыкула 80; часткай другой артыкула 82; часткай першай артыкула 85; артыкулам 86; часткай першай артыкула 87; часткай першай артыкула 90; артыкулам 92; часткай першай артыкула $92^{1}$; артыкуламі $92^{2}$, 94, 95; часткай першай артыкула 96; артыкуламі 97, $97^{1}$, 98, 103; часткай першай артыкула 104; часткай першай артыкула 105; часткай першай артыкула 107; артыкуламі 108—112; часткамі першай—трэцяй артыкула 113; часткамі першай і другой артыкула 114; артыкулам 116; часткай першай артыкула 117; артыкуламі 118, 120—$122^{1}$, 124, $124^{2}$, 125, 126; часткай першай артыкула $126^{1}$; артыкуламі $126^{2}$, 127; часткай першай артыкула 128; артыкулам 129; часткамі першай і другой артыкула 130; артыкуламі 131, 132—$136^{1}$; часткамі першай і другой артыкула 137; артыкуламі 138—140; часткай першай артыкула 141; часткай першай артыкула 142; часткай першай артыкула 144; часткай першай артыкула 146; артыкуламі 147, 149—$149^{2}$, 151—152; часткай першай артыкула 153; артыкулам 154; часткамі першай—трэцяй артыкула 155; артыкуламі 156, $156^{1}$; часткамі першай і другой артыкула $156^{2}$; артыкуламі $156^{3}$, 157—$160^{1}$; часткай першай артыкула 161; артыкуламі 162—165; часткай першай артыкула 166; часткай першай артыкула 167; артыкуламі 168, 171; часткай першай артыкула 172; артыкуламі $172^{1}$—$172^{3}$; часткай першай артыкула 173; артыкулам 174; часткай першай артыкула 175; часткай першай артыкула 176; часткай першай артыкула 177; артыкулам 178; часткай першай артыкула 179; артыкуламі 180—183; часткай першай артыкула 184; артыкуламі $184^{1}$, $184^{2}$; часткай першай артыкула $184^{3}$; артыкулам $184^{4}$; часткай першай артыкула 185; артыкуламі 186, $186^{2}$—187; часткай першай артыкула $187^{1}$; артыкуламі 188—189, 190; часткамі першай і трэцяй артыкула 191; часткамі першай і трэцяй артыкула 192; артыкуламі 193—$194^{2}$, 195—200; часткай першай артыкула 201; артыкулам 202; часткай першай артыкула 203; артыкуламі $203^{1}$, $205^{1}$; часткай першай артыкула 206; часткамі першай і другой артыкула $207^{2}$; часткай першай артыкула $208^{1}$; часткай першай артыкула 209; часткай першай артыкула 210; часткай першай артыкула $210^{1}$; часткай першай артыкула 211; часткай першай артыкула $211^{3}$; часткай першай артыкула $211^{4}$; артыкулам $211^{5}$; часткай першай артыкула 212; часткай першай артыкула $212^{1}$; часткай трэцяй артыкула 213; артыкулам 214; часткай першай артыкула $214^{1}$; артыкуламі 215—217; часткай першай артыкула 218; артыкулам 219; часткай першай артыкула $219^{5}$; артыкуламі $219^{6}$, $219^{7}$; часткай першай артыкула $220^{1}$; часткамі другой і трэцяй артыкула 221; часткай другой артыкула 222; артыкуламі 223—$225^{1}$; пунктамі "а" і "б" артыкула 228; пунктамі "а" і "б" артыкула 230; пунктам "а" артыкула 233; пунктамі "а", "в" і "г" артыкула 234; пунктамі "а", "б" і "г" артыкула 239; пунктам "а" артыкула $240^{1}$; пунктамі "а" і "б" артыкула 244; пунктамі "а" і "б" артыкула 245; пунктам "б" артыкула 246; пунктамі "а", "б" і "в" артыкула 247; пунктамі "б", "г" і "д" артыкула 248; пунктамі "а" і "б" артыкула $249^{1}$; пунктам "в" артыкула 254; артыкуламі 257, 258 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь".

7. Артыкул 84 пасля слова "суд" дапоўніць словам "(суддзя)".

8. Артыкул 86 пасля слова "суд" дапоўніць словам "(суддзя)".

9. У артыкуле 101 словы "вызначэннем суда" дапоўніць словамі "(пастановай суддзі)".

10. У артыкуле 234:

частку першую пасля слоў "суд у распарадчым пасяджэнні" дапоўніць словамі "суддзя пры вынясенні пастановы аб адданні пад суд";

часткі другую і трэцюю пасля слова "суд" дапоўніць словам "(суддзя)".

11. Часткі першую і чацвёртую артыкула 256 пасля слова "суд" дапоўніць словам "(суддзя)".

12. У артыкуле 261:

частку першую пасля слоў "суд выносіць вызначэнні" дапоўніць словамі "а суддзя — пастановы";

частку другую пасля слова "Вызначэнні" дапоўніць словам "(пастановы)", пасля слоў "выносяцца судом" — словам "(суддзёй)", пасля слоў "складам суда" — словам "(суддзёй)";

частку трэцюю пасля слова "суда" дапоўніць словам "(суддзі)";

частку чацвёртую пасля слоў "Вызначэнні", "судом" дапоўніць адпаведна словамі "(пастановы)", "(суддзёй)".

13. У артыкуле 263:

часткі першую—трэцюю пасля слоў "па вызначэнню суда" дапоўніць словамі "(пастанове суддзі)";

частку шостую пасля слоў "Вызначэнне", "судом" дапоўніць адпаведна словамі "(пастанова)", "(суддзёй)".

14. У артыкуле 264:

частку першую пасля слова "суда" дапоўніць словам "(суддзі)";

частку другую пасля слоў "выклікаными судом", "дзеянні суда", "вынесеныя судом" дапоўніць адпаведна словамі "(суддзёй)", "(суддзі)", "(суддзёй)".

15. У артыкуле 266:

частку першую пасля слоў "да пратакола судовага пасяджэння" дапоўніць словамі "а пры нязгодзе з заўвагамі выносіць матываваную пастанову";

частку другую пасля слоў "з заўвагамі" дапоўніць словамі "па справе, разгледжанай калегіяльна".

16. У артыкуле 267:

часткі першую і другую пасля слова "судом" дапоўніць словам "(суддзёй)";

частку чацвёртую пасля слова "Суд" дапоўніць словам "(суддзя)", а пасля слова "вызначэнне" — словам "(пастанова)".

17. У артыкуле 288:

частку першую пасля слоў "па меркаванню суда" дапоўніць словам "(суддзі)";

частку другую пасля слова "суда" дапоўніць словамі "(пастанове суддзі)";

частку трэцюю пасля слова "суд" дапоўніць словам "(суддзя)".

18. Артыкул 301 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

**"Артыкул 301. Вынясенне прыгавору імем Рэспублікі Беларусь**

Прыгавор суда выносіцца імем Рэспублікі Беларусь".

19. Артыкул 306 пасля слоў "падсуднага, суд" дапоўніць словам "(суддзя)", а пасля слоў "выносіць вызначэнне" дапоўніць словамі "суддзя — пастанову".

20. Артыкул 311 пасля слоў "суда", "суд" дапоўніць адпаведна словамі "(суддзі)", "(суддзя)".

21. У артыкуле 314:

частку першую пасля слова "суд" дапоўніць словам "(суддзя)";

частку чацвёртую пасля слоў "агаворкі падпісаны" дапоўніць словамі "суддзёй ці".

22. Артыкул 321 пасля слова "суд" дапоўніць словам "(суддзя)".

23. Артыкул 322 пасля слова "суд" дапоўніць словам "(суддзя)".

24. Артыкул 323 пасля слова "суд" дапоўніць словам "(суддзя)".

III. У Грамадзянскі працэсуальны кодэкс Рэспублікі Беларусь, зацверджаны Законам Рэспублікі Беларусь ад 11 чэрвеня 1964 года (ЗЗ БССР, 1964 г., № 17, арт.184; 1966 г., № 27, арт.364; 1975 г., № 16, арт.239; 1980 г., № 24, арт.496; 1985 г., № 5, арт.65; 1990 г., № 11, арт.139):

1. Назву і частку першую артыкула 7 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

**"Артыкул 7. Аднаасобны і калегіяльны разгляд грамадзянскіх спраў**

Грамадзянскія справы ў судзе першай інстанцыі разглядаюцца суддзямі аднаасобна, а ў выпадках, прадугледжаных гэтым Кодэксам, — калегіяльна ў складзе суддзі і двух народных засядацеляў, выбраных ва ўстаноўленым законам парадку";

частку другую выключыць.

2. Частку другую артыкула 10; артыкулы 11, 15; часткі першую—трэцюю артыкула 83; часткі першую і трэцюю артыкула 92; частку першую артыкула 93; артыкулы 94—96, 100, 105, 142; частку другую артыкула 189; частку першую артыкула 191; артыкул 192; часткі чацвёртую і восьмую артыкула 194; артыкулы 195, 196; часткі першую і другую артыкула 197; артыкулы 203, 205, 206; частку першую артыкула 207; артыкулы 211, 212; часткі першую і другую артыкула 213; частку першую артыкула 214; частку першую артыкула 215; часткі першую і другую артыкула 217; артыкул 218; частку першую артыкула 219; артыкул 224; часткі першую, трэцюю і пятую артыкула $227^{6}$; артыкулы $227^{7}$, $227^{8}$; частку другую артыкула 268; артыкулы 283, 304; пункт 4 артыкула 307; пункт 3 артыкула 309; артыкулы 310—312; пункты 1 і 2 артыкула 313; артыкул 317; частку першую артыкула 320; часткі першую і трэцюю артыкула 323; частку другую артыкула 328; частку першую артыкула 330; артыкулы 343, 345; частку першую артыкула 362; часткі першую, другую і чацвёртую артыкула 372; частку трэцюю артыкула 388; часткі першую і трэцюю артыкула 391 пасля слоў "суда", "суд", "судом", "суду" дапоўніць адпаведна словамі "(суддзі)", "(суддзя)", "(суддзёй)", "(суддзі)".

3. Артыкул 16 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

**"Артыкул 16. Склад суда**

Аднаасобны разгляд грамадзянскіх спраў праводзіцца: у раённым (гарадскім) народным судзе — старшынёй суда, народным суддзёй, у абласным, Мінскім гарадскім судах і Вярхоўным Судзе Рэспублікі Беларусь — старшынёй, намеснікамі, членамі гэтых судоў.

У выпадках, прадугледжаных законам, раённы (гарадскі) народны суд разглядае грамадзянскія справы калегіяльна ў складзе старшынствуючага — старшыні суда або народнага суддзі і двух народных засядацеляў, а абласныя, Мінскі гарадскі суды і Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь у складзе старшынствуючага — старшыні (намесніка старшыні або члена адпаведнага суда) і двух народных засядацеляў".

4. Артыкул 17 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

**"Артыкул 17. Парадак вырашэння пытанняў судом**

У выпадках разгляду справы суддзёй аднаасобна ўсе пытанні, што ўзнікаюць пры вядзенні справы, вырашаюцца суддзёй, які дзейнічае ад імя суда.

У выпадках калегіяльнага разгляду справы суддзя мае права аднаасобна вырашаць асобныя пытанні толькі ў выпадках, прама прадугледжаных гэтым Кодэксам. Усе іншыя пытанні, якія ўзнікаюць у ходзе вядзення справы, вырашаюцца суддзямі па большасці галасоў. Пры вырашэнні кожнага пытання ніхто з суддзяў не мае права ўстрымлівацца ад галасавання. Старшынствуючы галасуе апошнім. Суддзя або народны засядацель, не згодны з рашэннем большасці, можа выкласці ў пісьмовым выглядзе сваю асобую думку. Асобая думка прыкладаецца да справы, але ў зале судовага пасяджэння не аб'яўляецца.

Пытанні, якія суддзя мае права вырашаць аднаасобна, у выпадках калегіяльнага разгляду справы могуць таксама вырашацца судом у калегіяльным складзе".

5. Дапоўніць артыкул 22 пасля часткі трэцяй новай часткай наступнага зместу:

"Адвод, заяўлены суддзі, які разглядае справу аднаасобна, вырашаецца тым жа суддзёй";

частку чацвёртую лічыць часткай пятай.

6. У артыкуле 84:

у частцы першай словы "суд, які наклаў штраф" замяніць словамі "суд або суддзю, якія наклалі штраф";

частку другую пасля слова "суда" дапоўніць словам "(суддзі)".

7. Артыкул 101 пасля слоў "абскарджання рашэння суда" дапоўніць словам "(суддзі)".

8. Артыкул 112 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

**"Артыкул 112. Грамадзянскія справы, падсудныя раённаму (гарадскому) народнаму суду**

Грамадзянскія справы, падведамныя судам, разглядаюцца аднаасобна народнымі суддзямі раённых (гарадскіх) народных судоў, за выключэннем спраў, якія ў выніку спецыяльнага закона падсудныя абласным, Мінскаму гарадскому судам і Вярхоўнаму Суду Рэспублікі Беларусь.

Калегіяльна гэтымі судамі разглядаюцца грамадзянскія справы:

аб аднаўленні на рабоце;

аб высяленні без прадастаўлення іншага жылога памяшкання;

аб прызнанні асоб страціўшымі права карыстання жылым памяшканнем;

звязаныя з рэгістрацыяй і ліквідацыяй грамадскіх аб'яднанняў грамадзян;

аб устанаўленні бацькоўства;

аб пазбаўленні бацькоўскіх правоў;

аб адмене ўсынаўлення;

па спрэчках аб дзецях, у тым ліку пры разводах;

аб абароне гонару і годнасці;

па скаргах, якія вынікаюць з прымянення Закона Рэспублікі Беларусь "Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь";

па скаргах на няправільнасці ў спісах выбаршчыкаў".

9. Артыкулы 113 і 114 выкласці ў новай рэдакцыі:

**"Артыкул 113. Грамадзянскія справы, падсудныя абласным, Мінскаму гарадскому судам**

Абласныя, Мінскі гарадскі суды разглядаюць справы па першай інстанцыі, якія падсудны ім па дзеючаму заканадаўству (па скаргах на адмову ў рэгістрацыі грамадскіх аб'яднанняў грамадзян, па заявах аб спыненні дзейнасці такіх арганізацый, аб прызнанні забастоўкі незаконнай і інш.).

Абласныя, Мінскі гарадскі суды маюць права забраць любую грамадзянскую справу з раённага (гарадскога) народнага суда, які знаходзіцца на тэрыторыі адпаведнай вобласці, горада Мінска, і прыняць яе да свайго вядзення ў якасці суда першай інстанцыі.

Абласнымі і Мінскім гарадскім судамі разглядаюцца калегіяльна справы, указаныя ў частцы другой артыкула 112 гэтага Кодэкса. Усе астатнія справы разглядаюцца аднаасобна старшынёй, яго намеснікамі або членамі суда.

**Артыкул 114. Грамадзянскія справы, падсудныя Вярхоўнаму Суду Рэспублікі Беларусь**

Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь разглядае па першай інстанцыі грамадзянскія справы, якія падсудны яму па дзеючаму заканадаўству (па скаргах на адмову ў рэгістрацыі грамадскіх аб'яднанняў грамадзян, па заявах аб спыненні дзейнасці такіх арганізацый, па скаргах на адмову ў рэгістрацыі ініцыятыўнай групы па правядзенню рэспубліканскага рэферэндуму і інш.).

Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь мае права забраць любую грамадзянскую справу з любога суда Рэспублікі Беларусь і прыняць яе да свайго вядзення ў якасці суда першай інстанцыі.

Вярхоўным Судом Рэспублікі Беларусь разглядаюцца калегіяльна справы, указаныя ў частцы другой артыкула 112 гэтага Кодэкса. Усе астатнія справы разглядаюцца аднаасобна старшынёй, яго намеснікамі або членамі суда".

10. Дапоўніць Кодэкс артыкулам $120^{1}$ наступнага зместу:

**"Артыкул $120^{1}$. Перадача справы, прынятай суддзёй да аднаасобнага разгляду, на калегіяльны разгляд**

У выпадку, калі ў ходзе аднаасобнага разгляду справы высветліцца, што яна падлягае калегіяльнаму разгляду, справа перадаецца суддзёй на разгляд суда ў калегіяльным складзе".

11. Часткі другую і трэцюю артыкула 140 пасля слова "старшынствуючы" дапоўніць словамі "а пры аднаасобным разглядзе справы — суддзя".

12. Артыкул 141 пасля слова "старшынствуючага" дапоўніць словам "(суддзі)", пасля слова "суда" дапоўніць словам "(суддзёй)".

13. У артыкуле 145:

частку другую пасля слова "суда" дапоўніць словам "(суддзі)";

часткі трэцюю і пятую пасля слова "суд" дапоўніць словам "(суддзя)";

частку сёмую пасля слова "судом" дапоўніць словам "(суддзёй)".

14. Артыкулы 147—150, 152—164, 168—171, 173—179, 183, 184, пункт 10 артыкула 185, артыкул 186 пасля слоў "суд", "суда", "суду", "судом" дапоўніць адпаведна словамі "(суддзя)", "(суддзі)", "(суддзі)", "(суддзёй)".

15. У артыкуле 187:

частку другую дапоўніць словамі "а па справах, якія разглядаюцца суддзёй аднаасобна, заўвагі на пратакол разглядаюцца ім самім як старшынствуючым";

частку трэцюю дапоўніць словамі "Суддзя, які аднаасобна разгледзеў заўвагі на пратакол і не згодны з імі, выносіць матываванае вызначэнне аб іх адхіленні. Заўвагі на пратакол і вызначэнне суддзі прыкладаюцца да пратакола судовага пасяджэння".

16. Артыкул 188 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

**"Артыкул 188. Парадак пастанаўлення рашэння**

Пастанова суда першай інстанцыі, якім справа вырашаецца па сутнасці, выносіцца суддзёй, а ў выпадку калегіяльнага разгляду справы — судом у дарадчым пакоі пасля разбору справы ў форме судовага рашэння.

У выпадку калегіяльнага разгляду справы рашэнне суда пастанаўляецца па большасці галасоў.

Суд (суддзя) выносіць рашэнне імем Рэспублікі Беларусь".

17. У артыкуле 198:

частку першую пасля слоў "суд", "судом" дапоўніць адпаведна словамі "(суддзя)", "(суддзёй)";

частку другую дапоўніць словамі "Пры аднаасобным разглядзе справы дадатковае рашэнне пастанаўляецца тым жа суддзёй".

18. Частку першую артыкула 199, артыкул 200, часткі першую і другую артыкула 201 пасля слова "суд" дапоўніць словам "(суддзя)".

19. У артыкуле 208:

частку першую пасля слоў "пастанова суда" дапоўніць словам "(суддзі)";

часткі другую і трэцюю пасля слоў "судом", "суд" дапоўніць адпаведна словамі "(суддзёй)", "(суддзя)".

20. У артыкуле 210:

часткі першую і другую пасля слова "суд" дапоўніць словам "(суддзя)";

частку трэцюю пасля слоў "ўсімі суддзямі" дапоўніць словамі "(суддзёй)", а пасля слова "суда" — "(суддзі)";

частку чацвёртую пасля слова "суд" дапоўніць словам "(суддзя)";

частку пятую пасля слова "суда" дапоўніць словам "(суддзі)".

21. У артыкулах 226, 227, 230, 232, 238, 239, 242, 243, 246—248; частках першай і другой артыкула 249; артыкуле 253; частцы першай артыкула 254; артыкулах 256, 258, 259, 265—267 словы "судом", "суд", "суда", "у суда" замяніць адпаведна словамі "суддзёй", "суддзя", "суддзі", "у суддзі".

22. У артыкуле 231:

у назве слова "суда" замяніць словам "суддзі";

у частцы першай слова "Суд" замяніць словам "Суддзя";

у частках другой і трэцяй слова "суд" замяніць словам "суддзя".

23. У назве артыкула 233 слова "судом" замяніць словам "суддзёй".

24. У артыкуле 234:

у частцы першай слова "судамі" замяніць словамі "суддзямі аднаасобна";

у частках другой—чацвёртай слова "суд" замяніць словам "суддзя".

25. У артыкуле 235:

у частцы першай словы "раённым (гарадскім) народным судом" замяніць словамі "суддзямі аднаасобна";

у частках другой і чацвёртай слова "суд" замяніць словам "суддзя".

26. У артыкуле 238; частках першай і трэцяй артыкула 239; артыкулах 242, 246; частках першай, другой і чацвёртай артыкула 247; артыкулах 248, 249, 253; частцы першай артыкула 254; артыкулах 256, 258—260, 264—267 словы "суд", "суда", "судом" замяніць адпаведна словамі "суддзя", "суддзі", "суддзёй".

27. У артыкуле 284:

пункты 2, 4 пасля слоў "судом", "суд" дапоўніць адпаведна словамі "суддзёй", "суддзя";

частку другую дапоўніць пунктам 9 наступнага зместу:

"9) калі справа, якая падлягае калегіяльнаму разгляду, разгледжана суддзёй аднаасобна".

У Дадатку № 2 да Грамадзянскага працэсуальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь "Аднаўленне страчанага судовага або выканаўчага вядзення справы":

артыкул 1 пасля слоў "судом", "суда" дапоўніць словамі "(суддзёй)", "(суддзі)";

артыкул 2 пасля слова "суда" дапоўніць словам "(суддзі)";

частку першую артыкула 5 пасля слова "суд" дапоўніць словам "(суддзя)";

частку другую пасля слоў "суд", "суда" дапоўніць адпаведна словамі "(суддзя)", "(суддзі)";

артыкул 6 пасля слова "суд" дапоўніць словам "(суддзя)".

IV. Гэты Закон увесці ў дзеянне з дня апублікавання.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

11 чэрвеня 1993 г.
г. Мінск.

*Закон Рэспублікі Беларусь*

## Аб унясенні дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь"

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

Артыкул 7 Закона Рэспублікі Беларусь ад 20 чэрвеня 1979 года "Аб Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь" (ЗЗ БССР, 1979 г., N 18, арт. 296) дапоўніць пунктамі 7, 8, 9, 10 наступнага зместу:

"7) устанаўлівае маёмасную адказнасць суб'ектаў гаспадарання незалежна ад формы ўласнасці, а таксама матэрыяльную адказнасць іх кіраўнікоў, іншых службовых асоб за парушэнне гаспадарчага заканадаўства, калі такая адказнасць і парадак яе прымянення не ўстаноўлены законамі Рэспублікі Беларусь;

8) вызначае парадак накладання грашовых налікаў на кіраўнікоў, галоўных бухгалтараў і іншых службовых асоб суб'ектаў гаспадарання незалежна ад форм уласнасці за выкарыстанне не па прызначэнню цэнтралізавана выдзяляемых матэрыяльных сродкаў, дзяржаўных бюджэтных сродкаў, беспадстаўнае атрыманне датацый і кампенсацый з дзяржаўнага бюджэту, парушэнні заканадаўства аб цэнах і іншыя парушэнні гаспадарчага заканадаўства, калі такі парадак не ўстаноўлены заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь;

9) прымае канчатковае рашэнне аб размяшчэнні ці рэканструкцыі прадпрыемстваў і іншых аб'ектаў, якія маюць агульнарэспубліканскае значэнне, у выпадках, калі мясцовыя Саветы народных дэпутатаў не даюць згоды на гэта, нягледзячы на забеспячэнне экалагічных і іншых сацыяльна значных нарматываў, устаноўленых дзеючым заканадаўствам;

10) вызначае парадак адхілення ад займаемых пасад кіраўнікоў і іншых службовых асоб дзяржаўных прадпрыемстваў і арганізацый за парушэнні гаспадарчага заканадаўства, а таксама за невыкананне рашэнняў органаў дзяржаўнай улады і кіравання, калі такі парадак не ўстаноўлены законамі Рэспублікі Беларусь".

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

16 чэрвеня 1993 г.
г.Мінск.
№ 2423-XII

*Закон Рэспублікі Беларусь*

## Аб унясенні дапаўненняў і змянення ў Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях

У сувязі з прыняццем Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб Кантрольнай палаце Рэспублікі Беларусь" Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

Унесці ў Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях, прыняты 6 снежня 1984 года (ЗЗ БССР, 1984 г., N 35, арт. 505; 1986 г., N 28, арт. 362; Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1991 г., N 36, арт. 633; 1992 г., N 33, арт. 527, N 34, арт. 537; 1993 г., N 7, арт. 39), наступныя дапаўненні і змяненне:

1. Дапоўніць Кодэкс артыкуламі $166^{8}$ і $224^{9}$ наступнага зместу:

"Артыкул $166^{8}$. Невыкананне патрабаванняў работніка Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь

Невыкананне патрабаванняў работніка Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь пры выкананні ім службовых абавязкаў, якое праявілася ў адмове прадставіць бухгалтарскія справаздачы і іншыя дакументы, — цягне накладанне штрафу на службовых асоб у размеры да трох мінімальных заработных плат".

"Артыкул $224^{9}$. Органы Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь

Органы Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь разглядаюць справы аб адміністрацыйных правапарушэннях, прадугледжаных артыкулам $166^{8}$ гэтага Кодэкса.

Разглядаць справы аб адміністрацыйных правапарушэннях і накладаць адміністрацыйныя спагнанні ад імя органаў Кантрольнай палаты маюць права начальнікі ўпраўленняў і інспекцый Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь або іх намеснікі".

2. У абзацы першым часткі другой артыкула $234^{1}$ лічбы "203-$224^{6}$" замяніць лічбамі "203-$224^{9}$".

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

15 чэрвеня 1993 г.
г.Мінск.
№ 2411-XII

*Закон Рэспублікі Беларусь*

## Аб унясенні змянення ў Закон Рэспублікі Беларусь "Аб дарожных фондах у Рэспубліцы Беларусь"

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Унесці ў Закон Рэспублікі Беларусь "Аб дарожных фондах у Рэспубліцы Беларусь" (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., N 3, арт. 61) наступнае змяненне:

артыкул 10 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

"Артыкул 10. Адказнасць за нявыплату падатковых плацяжоў і адлічэнняў. Парадак іх спагнання

Адказнасць і парадак спагнання пералічаных у гэтым Законе падатковых плацяжоў і адлічэнняў устанаўліваюцца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб падатках і зборах, якія бяруцца ў бюджэт Рэспублікі Беларусь".

Нядоімкі па падатках, адлічэннях і сумы штрафаў спаганяюцца па распараджэнню падатковых органаў у дарожныя фонды ў бясспрэчным парадку".

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

6 ліпеня 1993 г.
г.Мінск.
N 2465-XII

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Аб парадку прымянення пункта 2 пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь па пытаннях падаткаабкладання"

У мэтах забеспячэння аднастайнасці ў прымяненні пункта 2 пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь па пытаннях падаткаабкладання" Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Лічыць, што падаткаплацельшчыкамі, на якіх распаўсюджваецца льготнае падаткаабкладанне, з'яўляюцца толькі тыя суб'екты гаспадарання (юрыдычныя асобы):

асноўнымі відамі дзейнасці якіх не з'яўляюцца страхавая, банкаўская, лізінгавая, пасрэдніцкая, маркетынгавая, гандлёвая, гандлёва-закупачная, кансультацыйная, інфармацыйная, турысцкая і іншыя невытворчыя віды дзейнасці, у тым ліку тыя, якія абкладаюцца падаткам на даходы. Асноўныя віды дзейнасці — гэта віды дзейнасці, рэалізацыя вынікаў якіх склала большую частку агульнага аб'ёму рэалізацыі прадукцыі (работ, паслуг) юрыдычнай асобы;

у статутным фондзе якіх няма і не было долі, якая належыць дзяржаве, ці долі, якая ўяўляе сабой рэінвестыцыю дзяржаўнай долі ў статутным фондзе іншай юрыдычнай асобы незалежна ад колькасці рэінвестыцый.

Аб'ектам ільготнага падаткаабкладання з'яўляецца выручка, атрыманая недзяржаўным вытворчым прадпрыемствам толькі ад рэалізацыі прадукцыі (работ, паслуг) уласнай вытворчасці.

Да прадукцыі (работ, паслуг) уласнай вытворчасці адносяцца:

прадукцыя, выробленая з выкарыстаннем сыравіны, матэрыялаў, паўфабрыкатаў, камплектуючых вырабаў, калі ў выніку выкананых работ змянілася назва гатовага вырабу;

работы і паслугі, выкананыя вытворцам з выкарыстаннем уласнай працы і маёмасці, якая знаходзіцца ў яго ўласнасці (у арэндзе).

Для мнагапрофільных недзяржаўных вытворчых прадпрыемстваў, якія ажыццяўляюць таксама і невытворчыя віды дзейнасці, льгатуецца толькі прыбытак, атрыманы ад вытворчых відаў дзейнасці, пры ўмове раздзельнага ўліку фінансавых вынікаў вытворчых відаў дзейнасці.

Перыядам дзеяння падатковай ільготы з'яўляецца перыяд з дня рэгістрацыі, але не раней 1 студзеня 1993 года і да сканчэння двух гадоў з дня рэгістрацыі, але не пазней 31 снежня 1993 года. Ільгота дзейнічае ў адносінах да прыбытку ад рэалізацый, праведзеных у перыяд дзеяння льготы.

Момантам рэгістрацыі прадпрыемства лічыцца момант першапачатковай рэгістрацыі, у тым ліку рэгістрацыі прадпрыемства, правапераемнікам якога выступае дадзенае прадпрыемства незалежна ад колькасці далейшых рэгістрацый.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

29 чэрвеня 1993 г.
г.Мінск.

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Аб часовым парадку прымянення мясцовых падаткаў і збораў у Рэспубліцы Беларусь

У мэтах упарадкавання мясцовых падаткаў і збораў, якія прымяняюцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і ўстанаўліваюцца мясцовымі Саветамі народных дэпутатаў, правядзення адзінай палітыкі ў галіне фарміравання затрат на вытворчасць, у пытаннях цэнаўтварэння і абмежавання гранічных памераў канфіскацыі сродкаў прадпрыемстваў і арганізацый Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Зацвердзіць пералік мясцовых падаткаў і збораў, якія могуць збірацца ў Рэспубліцы Беларусь:

а) збор за права гандлю;

б) падатак на рэкламу;

в) збор з уладальнікаў сабак;

г) падатак на продаж піва, віна-гарэлачных і тытунёвых вырабаў;

д) збор за паркаванне аўтатранспарту;

е) збор за права выкарыстання мясцовай сімволікі;

ж) збор за права правядзення кіна-, тэле- і відэаздымак;

з) збор за права размяшчэння гандлёвых кропак;

і) падатак на будаўніцтва ў курортнай зоне;

к) курортны збор;

л) збор на ўтрыманне дашкольных устаноў;

м) збор на ўтрыманне гарадскога і прыгараднага пасажырскага транспарту агульнага карыстання.

2. Устанавіць, што падаткі і зборы, якія ўводзяцца мясцовымі Саветамі народных дэпутатаў, не могуць парушаць дзеючага ў рэспубліцы парадку фарміравання затрат на вытворчасць (выдаткаў абарачэння) і цэнаўтварэння. Падаткі і зборы выплачваюцца юрыдычнымі асобамі за кошт прыбытку, які застаецца ў іх распараджэнні.

3. Устанавіць, што гранічная агульная сума мясцовых падаткаў і збораў не павінна перавышаць 5 працэнтаў прыбытку, які застаецца ў распараджэнні плацельшчыкаў.

4. Залічэнне мясцовых падаткаў і збораў ажыццяўляецца ў адпаведнасці з Законам "Аб мясцовым самакіраванні і мясцовай гаспадарцы ў Рэспубліцы Беларусь".

5. Мясцовыя Саветы народных дэпутатаў самастойна вызначаюць аб'екты падаткаабкладання, канкрэтныя памеры ставак, плацельшчыкаў, парадак вылічэння і тэрміны выплаты падаткаў і збораў, а таксама органы, якія павінны займацца вылічэннем падаткаў і збораў, кантролем за іх выплатай.

6. Гэта пастанова дзейнічае да прыняцця Закона "Аб мясцовых падатках і зборах у Рэспубліцы Беларусь".

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

29 чэрвеня 1993 г.
г.Мінск.
№ 2455-XII

